Здароўя і плёну ў працы, кахання і добрага настрою жадаем у Годзе Дракона! З новым, 2012-ым!

№№201–202
(3538–3539)
30 снежня 2011 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

# Пра што марыце?

*Новы год — свята з налётам казкі. Менавіта ў навагоднюю ноч мы загадваем самыя светлыя жаданні, верым, што яны здзейсняцца, будуем планы на будучы год, марым... Пра што вы марыце напярэдадні Новага года? Што набываеце на гэтае свята? З такімі пытаннямі карэспандэнт “Народнай Волі” звярнуўся да звычайных людзей, нашых з вамі суайчыннікаў.*

**Дзіяна ПАЎЛАВЕЦ, пенсіянерка, у мінулым выкладчыца беларускай мовы і літаратуры:**



— Самая запаветная мара ў апошнія гады для мяне — каб Беларусь стала сапраўды беларускай. Каб беларуская мова гучала, каб на ёй размаўлялі... І мара гэта крыху няправільная, ненармальная, бо ў любой краіне, дзе шануюць і помняць сваіх продкаў, свае карані, сваю гісторыю, гэтая мара — рэальнасць. У нас, на вялікі жаль, пакуль не так. У навагоднюю ноч я зноў буду загадваць жаданне словамі, якія напісаў Максім Багдановіч: *“Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага яснага дня...”* Веру, што гэтыя словы Багдановіча势 станyць прарочымі. І хочацца верыць, што ўжо ў 2012 годзе...

Што я звычайна купляю на Новы год? Не ведаю чаму, але не ўяўляю навагодні стол без беларускіх яблыкаў. Мандарынаў, апельсінаў можа не быць, а вось без яблыкаў на стале ў навагоднюю ноч няма адчування свята...

**Уладзіслаў ПІСАРЫК, адміністратар фірмы “Матэна”:**



— У навагоднюю ноч з года ў год я загадваю адно і тое ж жаданне: “Хачу, каб блізкія, сябры былі здаровыя і ўсё у іх было добра”. Аб чым мару? Аб тым, каб цэны на тавары ў беларускіх крамах зніжаліся, а не раслі, каб зарплата адпавядала цэнам, якія ёсць. Карацей, спадзяюся на лепшае, але застаюся рэалістам. Ад надзеі на лепшае адвыкаць не хочацца, так запраграміраваны абсалютна любы чалавек — верыць у тое, што заўтра абавязкова будзе лепш, чым учора. Праўда, рэальнасць не заўжды спраўджвае гэтыя спадзяванні. Тым не менш веру, што ў новым годзе будзе лепш, чым у прайшоўшым...

Што набываю на свята? Абавязкова падарункі ўсім родным — жонцы, дочкам. А навагодні стол у нашай сям’і будзе безалкагольным — нават без шампанскага. У нас любое сямейнае свята праходзіць без спіртнога. Так што на святочным стале будзе гарбата, торт, мандарыны... Пад бой гадзінніка ўздымем кубкі з гарбатай і загадаем жаданні.

**Арсеній АДАРЧАНКА, ахоўнік крамы “Віталюр”:**



— Мару аб тым, каб у новым годзе пакупнікі менш кралі з магазінаў. Адсутнасць “вынасаў” тавару будзе яскрава сведчыць пра тое, што беларусы сталі больш забяспечанымі. А што да асабістых мараў, то ёсць адна самая запаветная — мару аб папаўненні ў сям’і. Маёй старэйшай дачцэ ў сакавіку спаўняецца тры гады, мы з жонкай марым аб тым, каб у яе з’явіўся брат ці сястра. Магчыма, у новым годзе гэтая мара ажыццявіцца.

Што да навагодніх пакупак... З падарункамі для сваіх родных яшчэ не вызначыўся, зраблю гэта ў апошні дзень бягучага года. Навагодні стол? Тут усё класічна — аліўе, шампанскае, мандарыны. Менавіта гэта нагадвае смак дзяцінства і надае адчуванне свята...

**Аляксандр ЛАБАСЮК, кладаўшчык:**



— У Новым годзе мару сустрэць сваё каханне. Мару, каб з’явілася ўпэўненасць у заўтрашнім дні, каб заробак у наступным годзе рос так, як у гэтым раслі цэны. Мару з’ездзіць да мора — хоць на пару тыдняў. Мару, каб бацькі і сябры былі здаровымі. Мару, што ўсе гэтыя мары ў новым годзе спраўдзяцца.

Што купляю на Новы год? Недарагія падарункі родным — па-мойму, галоўнае не кошт падарунка, а ўвага да чалавека, якому падарунак уручаецца. Да навагодняга меню стаўлюся абсалютна спакойна. Нешта на стале будзе — шампанскае, мандарыны. Але галоўнае, каб за навагоднім сталом сабраліся самыя блізкія і родныя людзі. Гэта і ёсць самы галоўны падарунак для мяне на гэтае свята.

**Вольга БУЛГАКАВА, хімік-тэхнолаг:**



— Мару аб тым, што ў новым годзе ўдасца нарэшце справіць наваселле ў новай кватэры. Мару аб дабрабыце ў сям’і, аб яе папаўненні. Мару, каб муж, які зарабляе на жыццё хакеем, стаў чэмпіёнам Украіны, бо гуляе зараз у Львове. Мару, каб праца варта аплачвалася і мне не выпадала думаць, каму зрабіць падарунак на наступны Новы год, а каму не. Прызнаюся шчыра, раней на гэтае свята я купляла шмат падарункаў — блізкім, сябрам, знаёмым. У гэтым годзе падарунак ад мяне атрымае толькі муж, таму што з-за эканамічнага крызісу ў краіне сямейны бюджэт зменшыўся. І зменшыўся істотна. Але ўсё ж такі не пакідае вера ў тое, што сітуацыя выправіцца і ў новым годзе ў Беларусі жыць будзе лягчэй і лепей.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



## *Новогодние поздравления*

***Андрею Санникову***
***Николаю Статкевичу***
***Артему Прокопенко***
***Дмитрию Бондаренко***
***Николаю Дедку***
***Эдуарду Лобову***
***Александру Францкевичу***
***Дмитрию Дашкевичу***
***Николаю Автуховичу***
***Павлу Северинцу***
***Игорю Олиневичу***
***Алесю Беляцкому***
***Евгению Васьковичу***
***Павлу Сыромолотову***

*Зарю свободы Вы зажгли,*
*И свет ее нам ярко светит,*
*Найти надежду помогли,*
*Свободой год грядущий встретить.*

*Спасибо Вам и всем, кто с Вами!*
*Здоровья и надежд Вам и Вашим близким!*

**Ольга Ивановна ВАРАКСА,**
**Александр Эдуардович ВАРАКСА,**
**пенсионеры.**

*Минск.*

ПОД ГРАДУСОМ

## Какой будет погода на Новый год?

*Вот какой прогноз сделал начальник службы гидрометеорологических прогнозов Республиканского гидрометеорологического центра* ***Дмитрий Рябов.***

— Ночью на большей части территории днем местами кратковременный снег, — озвучил Рябов предварительный прогноз. — На дорогах гололедица. Температура воздуха в течение суток — 0, -6°С, ночью при прояснениях до -9°С.

В Минске временами небольшой кратковременный снег, температура ночью от -3 до -5, днем от -1 до -3.

Замечательная, комфортная погода, чтобы после очередной порции оливье и горячительных напитков прогуляться, поводить хороводы вокруг елки на улице. Однако будет скользко, поэтому одевайте соответствующую обувь, чтобы не скользила...

ІНІЦЫЯТЫВА ГОДА

*Дзмітрый УСС:*

## «Мы даб’ёмся таго, каб участковыя камісіі сталі незалежнымі»



Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Дзмітрый Усс ініцыяваў кампанію за дэмакратызацыю выбарчага заканадаўства. Ён не раз прызнаваўся, што і на выбары пайшоў не столькі для таго, каб стаць прэзідэнтам, колькі для таго, каб дабіцца дэмакратызацыі выбарчага працэсу ў Беларусі. Унясенне змяненняў у Выбарчы кодэкс — стала галоўнай мэтай Усса ў абвешчанай кампаніі. Больш за тысячу чалавек ужо падтрымалі ініцыятыву і выказалі гатоўнасць збіраць подпісы грамадзян для таго, каб выбары сталі сапраўднымі і справядлівымі. У асноўным гэта людзі, якія раней не ўдзельнічалі ў падобных акцыях. Шкада, што некаторыя былыя паплечнікі Усса пасля беспрэцэдэнтных рэпрэсій у адносінах да кандыдатаў і членаў іх штабоў пабаяліся ўдзельнічаць у цяперашняй кампаніі.

Для таго каб распачаць збор подпісаў за ўнясенне змяненняў у заканадаўства, трэба зарэгістраваць ініцыятыўную групу. Дзмітрый Усс паведаміў “Народнай Волі”: *“Мы атрымалі ліст ад старшыні Цэнтрвыбаркама, з якога вынікае, што ўсё можа атрымацца, трэба толькі падаць дакументы. Нам трэба мець дазвол на правядзенне сходу, а сход нам патрэбны для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы. Застанецца толькі падаць дакументы ў ЦВК. Калі ўсё атрымаецца без перашкод, то на пачатку сакавіка мы можам пачаць збор подпісаў. Мы даб’ёмся таго, каб участковыя камісіі сталі незалежнымі. Туды будуць уваходзіць прадстаўнікі ўсіх кандыдатаў. Будзе кантроль, і тады падлік галасоў стане празрыстым. Нават гэтага будзе дастаткова, каб выбары сталі справядлівымі, каб увогуле можна было казаць, што ёсць выбары”.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

ФИНАНСЫ

## В Беларуси почти 60 организаций не выплачивают даже минимальную зарплату

*После Нового года число таких организаций может возрасти.*

Первый заместитель министра труда и социальной защиты Петр Грушник: в Беларуси 59 организаций выплачивают заработную плату ниже минимальной, которая на сегодня составляет 925 тыс. 520 рублей с учетом индексации.

— *С 1 января минимальная зарплата вырастет до 1 млн рублей, и мне кажется, что число таких организаций может возрасти,* — цитирует чиновника БелаПАН.



## *Дзякуй, “Народная Воля”!*

Я пастаянны падпісчык вашай газеты з дня яе заснавання.

Вельмі ўдзячны рэдактару “Народнай Волі” і ўсім супрацоўнікам за справядлівую інфармацыю пра эканамічнае і палітычнае становішча ў нашай краіне.

Наша газета — гэта асцюк у вачах дыктатарскага рэжыму. Яе душылі, здзекаваліся. А яна выстаяла. Існавала і будзе існаваць.

“Народная Воля” — гэта крыніца праўды.

Шчыра і сардэчна віншую рэдактара Іосіфа Паўлавіча Сярэдзіча і ўсіх супрацоўнікаў “Народнай Волі” з надыходзячым Новым годам і Раством Хрыстовым!

Жадаю ўсім дабра, здароўя і асабістага шчасця.

**З павагай —**

**Аляксей ТРАПАШКА.**

*г.Валожын.*

# На жаль, яны не змогуць сустрэць з намі 2012 год...



**Юрый Захаранка**
знік 4619 дзён таму



**Віктар Ганчар**
знік 4487 дзён таму



**Анатоль Красоўскі**
знік 4487 дзён таму



**Дзмітрый Завадскі**
знік 4192 дні таму

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 СНЕЖНЯ 2011 г.

НАРОД КАЖА!

# Падзеі і імёны 2011 года



## Міхась СКОБЛА, паэт і журналіст:

### 1.Слова года

— **Плошча**. Слова гэтае летась прагучала на ўвесь свет з Плошчы Незалежнасці (падземны варыянт — Плошча Леніна), цягам 2011-га набыло трэці сэнс і стала азначаць — народны супраціў супраць дыктатуры. У такім значэнні Плошча замацавалася ў масавай свядомасці і мастацкай літаратуры, дзякуючы аднайменнай аповесці Барыса Пятровіча.

### 2.Персона года

— Сяргей Міхалок. Я паглядзеў кліп на верш Янкі Купалы "Хто ты гэткі?" і стаў ягоным прыхільнікам. У Купалаўскіх тэкстах схаваная велізарная энергетыка, і, калі Міхалок здолее яе вызваліць, нас чакаюць фантастычныя па ўздзеянні на слухачоў песні.

### 3.Адкрыццё года

— Аўтар славутага "Слова пра паход Ігара" быў беларус і зваўся Хадына. Пра гэта мне нядаўна расказаў паэт Ігар Шкляроўскі. У Расіі з гэтым ужо змірыліся, а мы працягваем па-ранейшаму пісаць: аўтар невядомы. Вядомы! І наша літаратура пабагацела яшчэ на адзін шэдэўр.

### 4.Падзея (прэм'ера) года

— Выхад кнігі Ларысы Геніюш "Лісты з Зэльвы" ў серыі "Гарадзенская бібліятэка". Штодзённая фіксацыя грамадска-культурнага жыцця, бескампрамісныя ацэнкі паэткай асоб, падзей і з'яў другой паловы XX стагоддзя даюць нам права назваць гэтую кнігу Геніюшаўскім летапісам.

### 5.Прызначэнне года

— Прыход галоўным рэдактарам у "Звязду" Алеся Карлюкевіча. Я памятаю, як той самы начальнік прызначыў яго рэдактарам "Чырвонай змены". Дзе яна цяпер? Баюся, каб той самы лёс не напаткаў і "Звязду".

### 6.Новабудоўля года

— Шматпавярховік у Траецкім прадмесці, які будуе кампанія вядомага прадпрымальніка Чыжа. Паводле пастановы ўрада прыкладна на тым самым месцы тая самая кампанія мелася аднавіць дом Максіма Багдановіча. Але, кажуць, нехта падсунуў прадпрымальніку байку паэта "Варона і чыж"...

### 7.«Аблом» года

— Спроба аднаго гамбургскага літаратара зняважыць Янку Купалу. Ён у сваім памфлеце назваў нацыянальнага генія Каянам Лупакам, які прыслужваў Сталіну. Але хутка быў пастаўлены на месца. Нядаўна нешта падобнае адбылося ў Кіеве: у жывым эфіры тэлеканала "Інтэр" адзін мастак назваў няздарам Тараса Шаўчэнку. Таго мастака пабілі проста ў студыі. Не раю літаратару з Гамбурга пакуль прыязджаць у Беларусь — хай жарсці ўлягуцца.

### 8.Страта года

— Смерць Віталя Скалабана, які ведаў як свае пяць пальцаў усе беларускія архівы і ўсім зацікаўленым падказваў, дзе што ляжыць. Скалабан быў добрым геніем архіўнай справы.

### 9.Выкрыццё года

— Аказваецца, 8 снежня 1991 года ў Віскулях лёс СССР з беларускага боку вырашаў не тагачасны кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч, а... Пятро Краўчанка, у якога аказаўся віскулёўскі архіў. З рук шчаслівага ўладальніка архіў быў паказаны ў тэлеперадачы "Адкрыты фармат", удзельнікі якой у адзін голас даводзілі, што Віскулі — "палітычная памылка". Але як жа хочацца быць датычным да гэтай памылкі!..

### 10.Экстрэмал года

— Капітан танкера, які па Дняпры і Прыпяці прыплыў ажно ў Мазыр. Акіянскі танкер у прыпяцкім рэчышчы глядзеўся даволі экзатычна. Дык навошта нам тыя чужыя нафтаправоды "Адэса—Броды" і "Дружба"? Лепей давайце будаваць свае танкеры...

УВАГА!

# «БелКарт» папярэджвае аб магчымасці махлярства па картках на Новы год

*Напярэдадні навагодніх святаў у сувязі з актывізацыяй махляроў (sms- і інтэрнэт-віктарыны, акцыі, розыгрышы) плацежная сістэма "БелКарт" просіць усіх трымальнікаў пластыкавых картак быць пільнымі.*

Аб гэтым паведамілі ў ААТ "Банкаўскі працэсінгавы цэнтр" (БПЦ).

Як адзначаюць спецыялісты БПЦ, запаўняючы ўсялякія анкеты або адказваючы на тэлефонныя званкі, неабходна памятаць, што ні супрацоўнік банка, ні тым больш прадавец або менеджар магазіна ні пры якіх абставінах не могуць запатрабаваць ад уладальніка карткі раскрыцця сакрэтных ПІН-кодаў, пароляў.

Не рэкамендуецца таксама перадаваць картку трэцім асобам нават на невялікі перыяд часу.

ПІН-код, нумар карты, тэрмін дзеяння карты, спецыяльны трохзначны код на заднім баку карты з'яўляюцца строга канфідэнцыяльнай інфармацыяй. Паведамленне гэтай інфармацыі трэцім асобам можа прывесці да выкарыстання карты ў незаконных мэтах.

Спецыялісты БПЦ таксама раяць ***кантраляваць карт-рахунак;***

***не карыстацца пластыкавай карткай у якасці ключа для праходу ў памяшканне з магнітным сканерным замком;***

***не запісваць значэнне ПІН-кода на пластыкавай картцы;***

***не захоўваць значэнне ПІН-кода разам з пластыкавай карткай.***

*"Пры выяўленні страты (крадзяжу) пластыкавай карткі (яе рэквізітаў) або пры ўзнікненні падазрэнняў, што картка або яе рэквізіты маглі стаць даступныя зламыснікам, трэба неадкладна заблакіраваць карту, для чаго неабходна патэлефанаваць у круглясутачную службу сэрвісу кліентаў або ў кантакт-цэнтр банка, які выдаў картку",* — падкрэслілі ў БПЦ.

З-ЗА КРАТАЎ

## Ад Андрэя Саннікава з «Віцьбы-3» прыйшоў кароткі ліст

*Яго атрымала жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Ірына Халіп.*

Па звестках "Хартыі'97", палітвязень піша, што атрымаў перадачу. Саннікаў адзначае, што спрабуе паведаміць пра тое, што з ім адбываецца, але лісты не праходзяць.

На думку Ірыны Халіп, з яе мужам штосьці адбываецца. *"Гэта могуць быць катаванні, галадоўка, цяжкая хвароба. І ўлады спрабуюць схаваць гэта любым спосабам. А гэты ліст прапусцілі выключна дзеля таго, каб іх не западозрылі, што яны прысвоілі сабе перадачу",* — мяркуе жонка палітвязня.

## Вярхоўны суд адмовіў у абскарджванні прысуду Зміцеру Бандарэнку

*Адпаведны адказ атрымаў адвакат палітвязня Юрый Сташкевіч.*



Як паведамляе БелаПАН, скарга ў Вярхоўны суд была пададзена больш за два месяцы таму. Адвакат паведамляў суду пра сур'ёзныя праблемы са здароўем у Бандарэнкі.

Па словах жонкі палітвязня Вольгі Бандарэнкі, усе тэрміны адказу на скаргу ўжо даўно скончыліся, але суддзі, мабыць, чакалі таго, што скажа на прэс-канферэнцыі Лукашэнка.

Нагадаем, што 23 снежня Аляксандр Лукашэнка заявіў, што выпусціць з-за кратаў палітвязняў толькі пасля таго, як яны напішуць прашэнні аб памілаванні.

АСАБІСТАЕ

# Любоў заменіць нянавісць






— Адседзім, — сказаў Зміцер скрозь стомленую добрую ўсмешку. У вачах быў боль аб згубленым часе, але адначасова моц мужнага мужчыны і пошук супакою ў маіх вачах.

— Не веру, — думала я. — Пабачымся праз паўгода, — пераконвала сябе ўнутры. І ўсмешліва глядзела на яго, імкнучыся развесяліць хоць чым-небудзь ці проста строячы яму грымасы. Не адрывала вачэй ад яго, бо разумела, што яшчэ доўгі, вельмі доўгі час я магу яго не пабачыць.

Пасля сядала на лаўку, хавалася за відэакамеру падчас прысуду і рабіла глыбокі ўздых. Затым уздымала твар і глядзела на яго сухімі вачыма, каб ён нічога не заўважыў.

Свой год умоўна я бяру з палёгкай, зрэдку згадваючы пра той прысуд наогул, калі гляджу на чарговую позву ці лічу папярэджанні. Ягоны год рэальны даўся мне складана.

Седзячы ў турме, я не ўмела іх ненавідзець. Нехта быў мне брыдкі, нехта выклікаў сімпатыю, але ўсіх іх мне было шкада, і рабілася сумна, што яны працуюць там. Я была здзіўлена, пабачыўшы ў СІЗА, здаецца, прыстойных і прыемных людзей, якія не зрабілі мне нічога кепскага. І часам нават моўчкі спачувалі. Сістэма мае эмоцыі, але не дае збояў.

Не так даўно я сустрэла ў краме ў раёне праспекта Незалежнасці свайго мінулага канваіра.

— Гэта ты? — спытаўся ён здзіўлена і ўсміхаючыся.

— Я. Прывет! Як ты? — чамусьці спытала я так проста, нібыта ён мой стары прыяцель.

— Нармальна. Збіраюся сыходзіць з такой працы.

— Ну правільна. Няма там чаго рабіць. Перадавай прывітанне Юмбрыку, пазітыўным і прыстойным персанажам ён застаўся ў маёй памяці.

— Так, адзін з нешматлікіх, — ціха і шматзначна сказаў ён, гледзячы кудысьці ўніз.

Пачуўшы гэта, я была здзіўлена і нават неяк натхнёна гэта ўспрыняла, можа быць, недзе нават палічыўшы гэта крокам сумлення і шчырасці, але тут мой добры сябра Мікола Дземідзенка прамовіў: "Расслабся, яны далёка не сыходзяць. Атрымаўшы адукацыю, з канвою — у следакі ці оперы. А разумець — можа, і разумеюць усё". Ізноў я падумала: "Сістэма, што мае эмоцыі, у выключэннях хоча і ўмее думаць, але не дае збояў".

Я нармальна ўспрымала іх усіх. З усімі віталася, нават з "маскамі", што былі прыстаўлены дзеля застрашэння, была ветлівая, не ленавалася тлумачыць свае пазіцыі ці адстойваць сваё. Але пачувала сябе спакойна, зрэдку расстройвалася ці моцна перажывала, хоць і не без гэтага.

Год прайшоў хутка: два месяцы "амерыканкі", пасля яшчэ некалькі — следства, у выніку — працяглы судовы працэс. А пасля цішыня... Тая цішыня, што чакае мяне яшчэ год. Ці маю я ілюзіі адносна хуткага вызвалення Дзімы? Не, не маю.

Я не ненавідзела тых, хто мог бы патэнцыяльна пасадзіць мяне, пужаў ці ўтрымліваў там, дзе мне было не месца. Але я змагаюся з нянавісцю ўнутры сябе цяпер, калі бачу, што яны робяць са Зміцерам, Андрэем, Міколам, Дзімам, Пашам, Яўгенам і астатнімі.

Калі чытаю навіны пра Аўтуховіча, мяне ахоплівае страх, а пасля — нянавісць. Здаецца, проста лютая нянавісць да тых, хто імкнецца знішчыць людзей духоўна, маральна, а затым і фізічна...

— Прывітанне, Наста! Мы тут толькі з Жодзіна ад Дашкевіча.

Я сядзела ў адным з вялікіх следчых пакояў на адзінокім стульчыку і глядзела на двух аператыўнікаў, што прыйшлі да мяне ўпершыню.

— Як ён?

— Нармальна. Толькі адмаўляецца з намі гаварыць, пакуль мы не адпусцім цябе.

— І што?

— Ну вось, паперы аб тваім вызваленні, глядзі (мне працягнулі запоўнены бланк пра змену меры ўтрымання, але без подпісаў і штампаў. Наташа Радзіна ўжо выйшла, Іры Халіп ужо намякалі на хатні арышт, таму выправаджэнне апошняй дзяўчыны мне падалося лагічным). Мы вызваляем цябе, ты толькі напішы Дзіме, што ты сыходзіш адсюль.

— Дык я і дома магу напісаць.

— Не, ты цяпер напішы. Так будзе лепш для яго, калі ён проста з намі пагаворыць. Нават ні аб чым.

Я задумалася. У любым выпадку я не зусім верыла ім, але ў першую чаргу не хацела сабою шантажыраваць Дзіму. Расказваць яму, канешне, і так не было чаго, але ён наогул з такімі рабятамі доўга не гаворыць. "Што рабіць?" — задумалася я. Але гэта быў адзіны шанец напісаць яму, што са мною ўсё ў парадку, бо перапіска была забаронена мне, і ён ведаць не ведаў, што са мною, а расказваць маглі рознае.

— Я напішу. Але толькі тое, што захачу я, — гэта быў адзіны варыянт паспрабаваць іх перахітрыць. Галоўнае, не перастарацца, каб зразумеў сам Дзіма.

Пішу: *"Прывітанне, Дзім, у мяне ўсё ў парадку. І з духам, і са здароўем, ты толькі не турбуйся. Я бачу перад сабою нейкія дакументы пра змену ўмоў утрымання. Не рабі нічога благога і не хвалюйся. Малюся за цябе, люблю і сумую".*

Я імкнулася напісаць так, каб ён зразумеў, што пэўнага нічога няма. І паводзіў сябе мудра. Бо ад такіх, як мы, у турме хутчэй пачуеш не здачу інфармацыі адзін супраць аднаго, а "Давайце я скажу, што гэта быў я, а вы таго вызваліце" ці "Што мне трэба сказаць, каб мяне аднаго вам хапіла?", а можа, проста "Я бяру за гэта адказнасць". Гераізм? Глупствы. Любоў, сяброўства і разуменне адсутнасці адзінага Закона. Вось і ўсё.

Вызваляць мяне пасля той цыдулкі ніхто не збіраўся. Я выйшла толькі праз месяц. Першыя тры дні пасля напісання гэтага ліста былі самымі жахлівымі днямі ў "амерыканцы". Але Дзіма быў мудры. Ды і не было яму што ім гаварыць. Тым, відаць, гэта не спадабалася, я засталася сядзець.

І да гэтых людзей, аператыўных супрацоўнікаў, я таксама нічога кепскага не маю. Ні крошкі. І следчы як следчы, ды турма як турма. І людзі ў ёй не чорна-белыя.

Але я не скажу падобнага ў дачыненні да аўтараў тых брудных ідэй, што робяць утрыманне ў турме невыносным для Дзімы. Не скажу гэтага ў дачыненні да тых нізкіх і подлых баязліўцаў, якімі з'яўляецца адміністрацыя Горацкай калоніі. Не скажу гэта пра тых нягоднікаў і нахабцаў, што назваліся Савіцкім і Малышавым, па бязвольнасці і несумленнасці якіх Дзіму і Эдуарда пасадзілі на 2 і 4 гады турмы.

Але насуперак усяму Зміцер не губляе ні хвіліны свайго часу. Жодзіна — "Валадарка" — зноў Жодзіна. Ён пісаў артыкулы на волю, рыхтаваў аналітычны матэрыял у кнігу для НІСЭПД. Пісаў лісты, падбадзёрваючы нас, нявольных вольных, што не жывуць у чатырох засценках. Пасля — этап у Горкі, 2 месяцы ШЫЗА і ПКТ. Трымаючы галадоўкі за Біблію і молячыся Богу, умацоўвае свой дух і пераконваецца ў вернасці свайго шляху. Цяпер новая калонія ў Глыбокім, тут Зміцер не губляе пачуцця гумару, якім захапляе і натхняе ўсіх тых, хто чытае ягоныя лісты. Ён працягвае вучыцца, вельмі шмат чытае, моліцца і верыць.

Так, як я бачыла стомленасць у яго вачах на судзе, так я часам бачу гэтую стомленасць у словах. Але як была моц у тых вачах, так і засталася. Не памянела яе. Проста мацней сціскаюцца кулакі і зубы ды больш адкрываецца сэрца да Таго, Хто Адзіны мае ўладу над ім.

Дык я да чаго? Зміцер справіцца, я ведаю. Ён выйдзе яшчэ больш моцным, насуперак усяму. Ён выйдзе тады, калі настане час.

І мы ўсе справіліся. Прызвычаіліся, шмат разоў упалі — падняліся. Не каменныя, не жалезныя — жывыя ж. Але паставілі арыенцір — і ідзём.

Міру і ўпакорвання перад Богам я зычу ўсім тым, хто заўтра будзе сустракаць "свой год"! Моцы і трывання вам перад людзьмі і заўтрашнім днём!

Я зычу ўсім нам любові адзін да аднаго, нашых сяброў, палітвязняў, да бліжніх і ўсёй краіны. Я зычу агромністай любові, якая заменіць нянавісць. Няхай гэтае брыдкае пачуццё ніколі не завалодае нашымі сэрцамі. Насуперак усяму — працягвайце любіць.

**Наста ПАЛАЖАНКА.**

*Уладзімір НЯКЛЯЕЎ*

# Святы з «амерыканкай»

## *Каляды, 2010 год*

25 снежня, калі Еўропа святкавала Каляды, ва ўнутранай турме беларускага КДБ я быў прызначаны дзяжурным па дзявятай камеры. Пад вечар заскрыгатаў ключ у замку, расчыніліся дзверы: "Мусор!"

Выносіць з камеры смецце — абавязак дзяжурнага. "Быстро, б..! Бегом, б..!" У абдымку са сметніцай выскокваю ў прыбіральню, дзе ў змерзлых выкідах чалавечай жыццядзейнасці бачу абрывак газеты. Скарыстаны ў клазеце шматок.

У турме, дзе цябе спрабуюць растаптаць, абязволіць, вельмі цяжка вытрываць, не маючы ўяўлення пра тое, што адбываецца за турэмнымі сценамі. Ізаляваны ад усялякай інфармацыі, ты сквапна ловіш любое слова турэмшчыкаў, адчайна намагаешся прачытаць нешта ў іх абыякавых вачах. А тут раптам — шматок газеты... І ўправа, у заляпаную кардонку выкідваючы смецце, я ўлева выварочваю шыю і разбіраю на газетным абрыўку ў жоўтых расплывах апошнія словы: *"Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко".*

Мне горла перахапіла...

У людзях нельга вынішчыць чалавечае. Яно незнішчальнае. Яго не вытравіць, не спаскудзіць ні брудам, ні лайном. З-пад бруду, з-пад лайна яно прарываецца харавством. І калі ў чым-небудзь ёсць на зямлі паэзія, дык у гэтым.

Паэзія патрабуе эмоцый. Моцнай энергетыкі. Скалечаны, фізічна я пачуваўся горш, чым кепска, — не было дзе энергію ўзяць, каб аддаць. І я не пісаў нічога, нават не спрабаваў пісаць. Да той каляднай ночы — самай доўгай ночы ў халоднай зіме 2010 года:

калі, як перажыўшы катарсіс, я зноў адчуў неверагодную моц жыцця, якая вулканічна можа вырвацца з самай, здавалася б, слабой, але яшчэ не сканалай клетачкі;

калі я ўспамінаў тых, каго любіў, люблю, хто любіў і любіць мяне, — і ўдзячна за іх маліўся;

калі ў кругласуткава бляклым мігценні лямпачкі, якая, здавалася, ніколі не гарэла, але й не гасла ніколі, з'явіліся ў паўмзроку камеры Турма разам з Воляй — і я пачаў пісаць паэму, якую скончыў 31 снежня. Якраз пад Новы год.



## *Новы год*

*(З турэмнага дзённіка)*

*1.01.2011*

Сустрэў Новы год у кампаніі чатырох мужыкоў (я сам пяты) у 9-й камеры ўнутранай турмы КДБ — той самай "амерыканкі", у якой пабываў герой "Лабуха". Між іншым, аднаго з мужыкоў (наймалодшага, яму 33 гады), з якімі сустрэў я 2011 год, зваць, як і майго лабуха, Раманам. Ён у турме ў чаканні суда ўжо 18 месяцаў. Да ўсяго на судзе яго могуць апраўдаць (налічаную яму матэрыяльную шкоду за нейкія мытныя парушэнні ён пагасіў), і выйдзе, што два гады ён адсядзеў ні за што. "Але так не выйдзе, — кажа Раман. — Нешта яшчэ прыпаяюць". І ўсе сакамернікі згодна ківаюць: "Сто пудоў — прыпаяюць. За нешта ж два адбытыя гады трэба будзе прысудзіць".

Ніхто тут не верыць ні ў якое правасуддзе. Кожны ведае: сістэма зробіць з ім усё, што захоча.

Якраз учора, на Новы год, Раману пад вечар, як падарунак, перадалі ліст з дому. А ў тым лісце вестка пра тое, што памерла ягоная бабуля. Ён узяў той ліст, прачытаў — і з ім пасярод камеры стаіць, не ведае, што рабіць... Кажа: "Вось... бабуля памерла... а чаму ніхто не сказаў... чаму я яе не пахаваў... маю бабулю..." Я падышоў, пагладзіў яго, як дзіця, па галаве, ён сеў на нары і заплакаў...

Чаму, сапраўды, не сказалі, не паведамілі, не адпусцілі пахаваць?

Бо напляваць. На чалавека напляваць. Вось што як было, так і засталося ў гэтай краіне найпершай праблемай. Нечыя там стогны, слёзы — цьфу! І свіння стогне. І кракадзіл плача.

Прозвішча Рамана Яскевіч. Ён з Міёраў, з Віцебшчыны. Стараецца трымацца, але з лёсам зміры́ўся. Проста чакае, што будзе...

Зрэшты, што ён яшчэ можа зрабіць? Нічога.

Таму Юрка Міхальчанка (ён з Любаншчыны, яму 42, і яго вінавацяць у нейкіх эканамічных махінацыях, за якія — да 10 гадоў зняволення) запарвае моцную (да чарнаты, чыфір) гарбату, каб было што выпіць на нашым навагоднім святце. І мы выпіваем а 12-й з аднаго алюмініевага кубка па чарзе па глытку нашага турэмнага напою за тое, каб наступны Новы год мы сустрэлі на волі.

ТОЛЬКО ЦИФРЫ

# Год ценовых рекордов

Наверняка ничто в Беларуси в уходящем году не менялось так стремительно, как ценники в магазинах. По росту цен Беларусь опередила и страны Европы, и СНГ. Например, за первые 10 месяцев 2011 года по показателю роста цен Беларусь опережала Грузию в 111 раз, Таджикистан (второй в этой статистике) — в 10 раз!

Официально потребительские цены в Беларуси за 10 месяцев выросли на 88,7%. Некоторые самые востребованные товары — продукты, лекарства — в декабре по отношению к январю подорожали и в два, и даже в три раза.

## Как росли цены

| Наименование товара | Цена в январе (в бел.рублях) | Цена в декабре (в бел.рублях) |
|---|---|---|
| **Продукты** | | |
| Хлеб "Водар" | 2250 | 4500 |
| Молоко 1 л (3,2%) | 2200 | 4650 |
| Сметана 0,5л (26%) | 4080 | 9150 |
| Яйца (1 дес.) | 3990 | 11550 |
| Сахар | 3280 | 7000 |
| Филе куриное (1 кг) | 14700 | 46900 |
| **Лекарства** | | |
| Мезим форте (20 таб.) | 11270 | 23300 |
| Найз (20 таб.) | 12794 | 23480 |
| Кардиомагнил (100 таб.) | 16030 | 48000 |
| Супрастин (20 таб.) | 11200 | 26300 |
| **Бензин** | | |
| Нормаль-80 | 2250 | 5400 |
| АИ-92 | 2870 | 5700 |
| АИ-95 | 3240 | 6100 |
| Диз. топливо | 2580 | 6300 |
| **Общественный транспорт** | | |
| Автобус, троллейбус, трамвай, метро | 700 | 1300 |
| Марш. такси | 1500—3000 | 4000—5000 |
| **Валюта** | | |
| Доллар США | 3015 | 8410 |
| Евро | 4058 | 11030 |
| Росс. рубль | 101 | 265 |

